№13 (176)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Верасень 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Средняя зарплата в Беларуси за июль выросла на 4,1% до Br6 млн 455,3 тыс.**

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Беларуси в январе-июле текущего года составила Br5 млн 860,8 тыс. В июле средняя зарплата достигла Br6 млн 455,3 тыс., она увеличилась по сравнению с июнем нынешнего года на 4,1%, или на Br256,7 тыс., сообщили в Национальном статистическом комитете.

Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в январе-июле 2014 года по сравнению с январем-июлем 2013-го возросла на 2,3%, в июле по сравнению с июнем 2014 года она увеличилась на 3,2%.

### У Прыдняпроўі

**«Могилевдрев» задерживает зарплаты.**

Непростая ситуация сложилась на заводе «Могилевдрев», на котором начались проблемы с выплатой зарплаты. Вовремя люди получают лишь часть заработной платы, остальную сумму приходится ждать больше недели. Бухгалтерия аргументирует задержки арестом счетов за долги предприятия.

Некоторые работники завода увольняются, возможно не только из-за задержек, а и по причине невысокой заработной платы, которая в среднем по заводу за июнь составила 4 млн рублей.

### У раёне

**Намінальная налічаная сярэдняя заработная плата** працаўнікоў Бялыніцкага раёна ў ліпені 2014 года склала 5 623 867 рублёў, паведамляюць слаўныя магілёўскія статыстыкі.

Сярэднемесячная налічаная зарабатная плата за студзень-ліпень 2014 года ў працаўнікоў Бялыніцкага раёна складае 4 935 314 рублёў.

# ПРА КАРУПЦЫЮ І ПРА ТОЕ, ЯК З ЁЙ ЗМАГАЮЦЦА

***Беларускія ўлады абвесцілі пра хуткае прыняццё новага Закона “Аб барацьбе з карупцыяй” і зараз спрабуюць арганізаваць яго шырокае абмеркаванне сярод насельніцтва. Праўда, не зусім зразумела, чаму ім спатрэбілася прымаць і абмяркоўваць гэты закон менавіта зараз, бо і дзеючы аналагічны закон, на мой погляд, даволі добры.***




Хоць тут якраз усё зразумела, - проста ўжо хутка ў краіне павінны адбыцца чарговыя прэзідэнцкія выбары, і Аляксандр Рыгоравіч і яго верныя чыноўнікі зноў вырашылі адыграць бяспройгрышную карту барацьбы з карупцыяй. Калі хто не памятае, то нагадаю, што перад кожнай выбарчай прэзідэнцкай кампаніяй у нас традыцыйна абвяшчаюць пра чарговае змаганне з праклятымі карупцыянерамі, ну а пасля Аляксандра Рыгоравіча “абіраюць” у чарговы раз прэзідэнтам і яго слаўныя чыноўнікі пачынаюць красці яшчэ больш. Традыцыя ў Беларусі такая, што тут зробіш.

Вось і зараз Генеральная пракуратура з імпэтам паведаміла, што фактаў карупцыі за першае паўгоддзе 2014 года ў Магілёўскай вобласці выяўлена менш, праўда, тут жа адзначыла, што хабараў сталі браць значна больш.

У прыватнасці, у першым паўгоддзі 2014 года ў Магілёўскай вобласці зарэгістравана 131 злачынства карупцыйнай скіраванасці (у першым паўгоддзі 2013 года было 157), з іх 32 (50) – крадзёж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, 22 (22) – злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі, 7 (3) – перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў, 58 (36) – атрыманне хабару, 12 (39) – дача хабару.

Карупцыйныя злачынствы зарэгістраваныя ў сферах аховы здароўя – 61 (29), прамысловасці – 27 (21), адукацыі – 9 (11), будаўніцтва – 9 (9), гандлю – 9 (9), сельскай гаспадаркі – 9 (24), дзяржаўным кіраванні – 6 (4).

Узбуджана 10 крымінальных спраў у адносінах дэпутатаў Саветаў дэпутатаў 26 і 27 скліканняў. Ну што тут зробіш, любяць нашы дэпутаты дармавыя грошы.

Што цікава, дык гэта тое, што пачалося нейкае варушэнне па выяўленню злачынстваў карупцыйнай

*(Заканчэнне на стар. 5)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЯК СУПРАЦЬСТАЯЦЬ “ВЕТРУ АНШЛЮСУ” З УСХОДУ

***Што менеі часу застаецца да чарговай прэзідэнцкай кампаніі 2015 году, то ўсё трывожней і трывожней становіцца на душы за лёс нашай роднай краіны, нашай Беларусі. Як паказвае час, палітычныя і эканамічныя падзеі ўнутры краіны, так і за яе межамі развіваюцца вельмі імкліва, і “вецер аншлюсу” з усходу з кожным днём толькі ўзмацняецца. Канчатковым каталізатарам працэсаў па вызначэнні лёсу Беларусі і можа стацца гэтая прэзідэнцкая кампанія.***



***Рыгор Кастусёў***

Нажаль, на сёння ў беларускім грамадстве адсутнічае неабходная кансалідацыя, якая змагла бы пры неабходнасці падштурхнуць усіх да абароны сваёй Айчыны.

Правячае чынавенства краіны актыўна занята вырашэннем жыццёва важнага для іх пытання — сваім абагачэннем, прадстаўнікі кіруючых ворганаў сілавых структураў “глядзяць у рот” сваім калегам з Усходу. І тым, і другім няма розніцы, пад якім сцягам яны будуць сядзець у кіруючых крэслах, і чый партрэт будзе вісець у іх працоўных кабінетах.

Калі раней кіраўніцтва Беларусі хоць якім чына рэагавала на драпежніцкія памкненні усходняй суседкі, накшталт далучэння Беларусі шасцю абласцямі, то ў апошнія часы яно пабаіваецца нават неяк рэагаваць на падобныя выпады.

А рэагаваць ёсць на што і ёсць над чым задумацца. Чаго толькі варта заява віцэ-спікера расійскай Дзярждумы Жырыноўскага аб неабходнасці адраджэння Расійскай імперыі, з якой ён выступіў перад прэзідэнтам, прэм’ер-міністрам і дэпутатамі Дзярждумы Расійскай Федэрацыі 14 жніўня ў Ялце. Словы Жырыноўскага прагучалі як “бальзам на сэрца” прэзідэнту РФ, які ўжо шмат год толькі і марыць аб гэтым. Па словах Жырыноўскага, у іх ужо ёсць і кандыдатура на пасаду Вярхоўнага кіраўніка імперыі ў асобе Пуціна.

Разважаючы аб узрастаючых пагрозах для незалежнасці нашай краіны, аб прадстаячай прэзідэнцкай кампаніі, робячы канкрэтныя высновы, я заўсёды імкнуся аглянуцца назад у недалёкае мінулае — часы мінулых прэзідэнцкіх кампаній, падзеі якіх прайшлі праз самае сэрца і пакінулі на ім свой след…

…І заўважаю, што і ў палітычным асяродку (не бяру пад увагу праўладныя партыі) няма неабходнай кансалідацыі ў пытаннях абароны нашай дзяржавы. Нажаль, ужо зноўку,- больш чым за год да прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, як і ў 1994, 2001, 2006, 2010 гадах, можна заўважыць шматлікія спробы некаторых апазіцыйных палітыкаў “застолбить” за сабой месца, або пазіцыю пракрамлёўскага беларускага палітыка з мэтай чакання новых “імпульсаў дэмакратыі” з Крамля.

Ужо зноўку , як гэта было ў 2001 г., гучаць размовы аб пошуку прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, які б падабаўся не толькі Захаду, а і Крамлю. Ужо зноўку, як гэта было ў 2006 і 2010 гадах, шэрагам палітыкаў вядуцца кулуарныя перамовы з мэтай атрымання палітычнай і фінансавай падтрымкі з Усходу. Зноўку, як і напярэдадні мінулых кампаній, нярэдка гучыць “одобрямс” дзеянням Крамля на тэрыторыі Беларусі.

Разыходжанні апазіцыйных палітычных арганізацый у падыходах да ацэнкі ўзроўню пагрозаў незалежнасці краіны выліліся задоўга да сённяшняга дня ў фармаванне двух кааліцый апазіцыйных сілаў.

І калі адзін бок інтэнсіўна выступае за выхад Беларусі з разнастайных саюзаў, створаных у межах краін былога Савецкага Саюза, за вывад замежных вайсковых базаў з тэрыторыі краіны, то прадстаўнікоў другой задавальняе ўваходжанне Беларусі ў саюзную дзяржаву разам з Расіяй, у Еўразійскі саюз, у іншыя аб’яднанні…

Нават планы расейскага боку па размяшчэнні ў 2015 годзе на тэрыторыі Беларусі, у Баранавічах, авіяпалка знішчальнікаў Су-27 не ўспрымаюцца імі як элемент узрастаючай пагрозы для незалежнасці нашай краіны. Размяшчэнне расійскай вайсковай базы, па іх меркаваннях, пойдзе толькі на карысць Беларусі.

Як і ў час прэзідэнцкай кампаніі 2010 года, у якой Партыя БНФ удзельнічала як самастойная палітычная сіла, на дадзеным этапе перад ёй зноўку паўстае складаная задача — змаганне за Беларусь на два “франты”: і з існуючым правячым рэжымам, і з магчымымі прарасійскімі кандыдатамі.

Нязменная пазіцыя Партыі БНФ, як абаронцы нацыянальных інтарэсаў, на сёння застаецца адзінай кансалідуючай ідэяй, вакол якой павінны яднацца здаровыя палітычныя сілы і дэмакратычнае грамадства ў змаганні ЗА БЕЛАРУСЬ.

Нацыянальныя інтарэсы, а не зацікаўленасць асобных груповак, павінны быць асновай нашай знешняй і ўнутранай палітыкі.

Для ўсіх нас Беларусь ёсць адзінай і непаўторнай Бацькаўшчынай.

Толькі разам мы здольныя супрацьстаяць узмацняючамуся “ветру аншлюсу” з Усходу і дамагчыся годнага і незалежнага жыцця на беларускай зямлі.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

# БІТВА ПАД ВОРШАЙ

***Пачатак шаснаццатага стагоддзя быў асабліва цяжкі для нашай дзяржавы. Яна ўжо каля двух дзесяткаў гадоў знаходзілася ў стане вайны з Масквой. Да гэтага часу былі страчаныя многія землі на Браншчыне і ўсходняй Гомельшчыне. А ў ліпені 1514 года капітуляваў Смаленск.***

Каб замацаваць свой поспех, маскоўскі валадар Васіль III паслаў вялізнае войска ўглыб Беларусі - на Амсціслаў, Менск. Аднак насустрач яму ўжо рухалася наша армія і дапаможны польскі корпус. Сам кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары быў пры сваім войску. Праўда, валадар дзяржавы не імкнуўся кіраваць ваеннымі дзеяннямі. Як чалавек разважлівы, ён выправіў наперад трыццаць тысяч вяроў пад кіраўніцтвам найвышэйшага гетмана Кастуся Астрожскага.



27 жніўня 1514 года Астрожскі барысаўскім шляхам падышоў да Бярэзіны і сустрэў на яе левым беразе пешыя маскоўскія палкі, што ішлі ў бок Менска. Пад прыкрыццём гармат і рушніцаў нашы ваяры пераправіліся цераз раку і адразу ўступілі ў бітву, а затым і разгрмілі ворага. На наступны ж дзень авангард Астрожскага разбіў маскоўскую старожу на берагах Бабра, а 1 верасня - на Друці.

Ваяводы Васіля III, не ведаючы напачатку сапраўднай колькасці нашых войскаў, адвялі свае сілы за Дняпро, каб даць генеральную бітву на зручным для сябе месцы. Восемдзесят тысяч маскоўскіх ратнікаў занялі пазіцыю на ўзгорках непадалёку Воршы, на захад ад рэчкі Крапіўны, паміж вёскамі Шугай лава і Рукліна. Галоўны ваявода Іван Чаляднін размясціў свае палкі трыма выцягнутымі лініямі, пакінуўшы наперадзе прастору для Астрожскага. Гэта была ідэальная пастка для праціўніка, які рызыкне пераправіцца цераз Дняпро - за спіной і на флангах лука ракі, а па фронце ўзвышалася сцяна маскоўскіх ратнікаў.

7 верасня нашыя войскі падышлі да Дняпра паблізу Воршы. Аднак пачынаць пераправу навідавоку, пад лучным боем, не выпадала. Былі б вялікія страты, да таго ж маскоўскія ваяводы зразумелі б, што людзей у Астрожскага амаль утрая меней.

Каб заблытаць праціўніка, гетман пусціў бродам толькі невялікую частку конніцы. Другая пераплыла раку пад прыкрыццём Аршанскага замка. Калі ж сцямнела, асноўныя сілы пайшлі ўверх па Дняпры і пачалі перапраўляцца цераз раку па ўзведзеным наплыўным мосце каля вёскі Пашына. Вядома, на світанку рух палкоў-харугваў быў заўважаны, але Чаляднін не пачынаў атакі. Ён чакаў, калі наша войска пераправіцца цалкам, каб адным разам знішчыць яго і гэтым пераможна скончыць вайну. “Пачакаем, пакуль пераправяцца ўсе, - заявіў саманадзейны масковец, - бо нашы сілы нагэтулькі вялікія, што мы без асаблівых намаганняў зможам ці разбіць гэтае войска, ці абкружыць яго ды гнаць, як жывёлу, да самой Масквы”.

А тым часам Кастусь Астрожскі рыхтаваўся да бітвы. Наперадзе ён паставіў два конныя палкі і пяхоту з агнявой зброяй. Вершнікі размяшчаліся і ў другой лініі. Флангі трымалі палкі конніцы з лягчэйшым узбраеннем. Аднак менавіта на правым краі на ўзлеску гетман прыхаваў пад аслонай пяхоты артылерыю.

Бітва пачалася раніцай 8 верасня 1514 года. Астрожскі вольна рушыў шыхты вершнікаў, быццам правакуючы праціўніка. Гэта падзейнічала на маскоўцаў, і яны пайшлі ўперад. Разгарэлася сеча. Крытычнае становішча склалася на левым краі. Але нашы ваяры вытрымалі, а затым і пераламалі ход змагання на гэтым участку. Асабліва вызначылася пяхота з рушніцамі ды цяжкаўзброеная конніца. Мужны гетман на баявым кані і з непакрытай галавой з першай хвіліны быў у самых адказных месцах. Кіраваў бітвай, натхняючы ваяроў прыкладам і словам: “Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!”. Выдатна праявілі сябе і іншыя камандзіры - Юрай Радзівіл, Іван Сапега, Януш Свярчоўскі.

Іван Чаляднін, думаючы, што нашы асноўныя сілы скаваныя сечай каля Шугайлава, узмацніў дзеянні свайго другога крыла. Войска Астрожскага, нібыта не вытрымаўшы націску велізарнай масы баярскай конніцы, пачало адступаць да лесу. Вось ён, жаданы час перамогі! - думалі маскоўцы. Але нечакана “ўцекачы” расступіліся і нападнікі апынуліся перад артылерыяй і пяхотай з рушніцамі. Залпы ва ўпор рабілі ў іх шчыльных шэрагах жахлівыя спусташэнні. Быццам віхор клаў лес. І маскоўскае войска паказала спіны, ратуючыся роспачнымі ўцёкамі. А за ўцекачамі, секучы, колючы, дратуючы, рушыла наша імклівая конніца. Асабліва лютая сеча была на Крапіўне. Як сцвярджалі тагачаснікі, скрываўленая рэчка запаволіла свой бег ад мноства целаў чужынцаў.

“И бысть неспособие Божие москвичам” - бедаваў потым маскоўскі летапісец. Ды такое “неспособие”, што каля паловы войска Васіля III лягло на аршанскіх палях,

*(Заканчэнне на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БІТВА ПАД ВОРШАЙ

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 3)*



***Канстанцін Астрожскі***

патапілася ў Дняпры і Крапіўне. Нашы ж страты налічвалі меней за паўтысячы забітымі. У рукі пераможцаў трапіў маскоўскі абоз, агняпальная зброя, усе баявыя сцягі. 20 тысяч захопленых коней і палову абозу Астрожскі загадаў раздаць сваім ваярам. Сярод больш як пяці тысяч палонных былі і амаль усе ваяводы, у тым ліку сам Іван Чаляднін.

Аршанская перамога тым разам не вярнула Вялікаму Княству Літоўскаму захопленага Смаленска. Але яна стала яскравай старонкай беларускай ваеннай гісторыі. Заняла адно з першых месцаў у шэрагу бліскучых трыумфаў нашай зброі.

Больш як у 60 бітвах перамагаў Кастусь Астрожскі, але Ворша была найслаўнейшай. Тут найболып праявіўся яго палкаводчы геній. Тут напоўніцу было скарыстанае ўменне адпаведна сілам праціўніка паставіць уласныя шыхты, нанесці ўдары ў патрэбным кірунку, навязаць ворагу сваю тактыку. Гетман ужыў фактар нечаканасці, максімальна выкарыстаў моц агняпальнай зброі ў вырашальны момант і асабістай мужнасцю натхняў ваяроў на гераічны чын.

Вестка пра Аршанскую перамогу разнеслася па ўсёй Еўропе. Яна трапіла на старонкі многіх хронік і летапісаў. У двары тамтэйшых валадароў павезлі вяльможных палонных маскавітаў. Амаль адразу пасля падзеяў пад Воршай невядомы мастак намаляваў каляровую карціну. Мяркуючы па незвычайнай падрабязнасці выкання, ён быў на той бітве, ці карыстаўся кансультацыямі яе ўдзельнікаў. На вялікім палатне адначасова паказаны розныя эпізоды бітвы - ад яе пачатку да ўцёкаў маскоўцаў. Кастусь Астрожскі таксама змешчаны ў трох ключавых месцах пабаявішча. А над нашымі войскамі трапечуцца бел-чырвона-белыя сцяжкі-прапары.

Пазней, пасля таго як наша краіна страціла незалежнасць, акупанты 200 гадоў рабілі ўсё магчымае, каб народ забыўся на Воршу. А народ памятаў і спяваў:

Ой, у нядзельку параненька
Узышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам,
Па-над Селецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае нарады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
Ані з поля, ані з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі.
А ў нядзелю параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы.
Гучаць разам з самапалаў,
3 сяміпалых ад запалаў.
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці,
А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку невялічку праклінапі:
"Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як нашая слава тутака прапала.
Бадай высыхала да скančэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету".
Слава Воршы ўжо ня горша.
Слаўся, пан Астрожскі!

***Чарняўскі М., "Дзесяць бітваў"***

## Воруют

22 августа Белыничским раотделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении неработающего, ранее судимого за совершение кражи жителя д. Аксеньковичи, 1957 г.р., который 17 августа со двора дома местной жительницы, 1975 г.р., похитил велосипед.

## В БЕЛЫНИЧСКОМ РАЙОНЕ ПОЯВИЛАСЬ ПЕРВАЯ В ОБЛАСТИ ШКОЛА МИРА

Школа Мира работает в Белыничском районе. Ученики и учителя Техтинского учебно-педагогического комплекса "Детский сад - средняя школа" первыми в области присоединились к проекту ООН "Сеть школ мира".

"Это одно из новых направлений в нашей работе, - отметила председатель областного отделения ОО "Белорусский фонд мира" Валентина Мельникова. - Мы перенимали опыт в данном направлении у коллег из Москвы и Минска. Ответственная за реализацию такого проекта в Белыничском районе - директор Техтинского комплекса Лилия Шакуро".

Техтинская школа мира прошла регистрацию в Москве в ноябре прошлого года. За это время на счету ее миротворческого актива много добрых дел. Среди них - различные патриотические акции, походы по местам боевой славы, декады добрых дел и другие значимые мероприятия. Ребятам удалось отыскать ранее неизвестных двух человек, которые были награждены медалью "Праведники мира".

***Татьяна Подлипская, ИА "Могилевские Ведомости"***

## Міліцыя шукае аўтараў сюжэту на "Белсаце"

Ужо двух незалежных журналістаў з Магілёва выклікалі "на гутарку" ў міліцыю пасля праверкі УКДБ па Магілёўскай вобласці, якое зацікавілася сюжэтам на тэлеканале "Белсат".

18 жніўня магілёўскаму журналісту Аляксандру Буракову патэлефанаваў участковы інспектар Марозаў і запрасіў яго прыйсці на гутарку.

Сустрэча працягвалася больш за дзве гадзіны. Маёр Марозаў паведаміў Аляксандру Буракову, што ён выкліканы ў якасці асобы, супраць якой узбуджана адміністратыўная вытворчасць за працу на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Справа распачатая па матэрыялах праверкі УКДБ па Магілёўскай вобласці ў сувязі з тым, што на тэлеканале "Белсат" і ў сетцы інтэрнэт з'явіўся відэаролік, у якім распавядалася аб праблемах жылых дамоў на вуліцы Будаўнікоў у Магілёве.

# ПРА КАРУПЦЫЮ І ПРА ТОЕ, ЯК З ЁЙ ЗМАГАЮЦЦА

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1)*

скіраванасці і сярод нашых слаўных бялыніцкіх чыноўнікаў. Нашы доблесныя бялыніцкія міліцыянеры адсправаздачыліся, што па выніках першага паўгоддзя ў Бялыніцкім раёне карупцыйных злачынстваў няма, супрацоўнікі ГБЭЗ здолелі выявіць толькі шэсць эканамічных злачынстваў. А тут знянацку высвятляецца, што супраць намесніка старшыні Бялыніцкага райвыканкама Андрэя Ярашэнкі ўзбуджана і расследуецца крымінальная справа.

Праўда, якія будуць вынікі гэтага расследвання, нам адказаць цяжка. Звычайна такія расследванні ў нашым Бялыніцкім раёне заканчваюцца нічым, бо ў нас тут працуюць, верагодна, самыя чэсныя чыноўнікі і кіраўнікі. Памятаеце ж добра, шаноўныя чытачы, як узбуджалі крымінальную справу супраць заслужанага ветэрана вытворчасці, дырэктара цэха па вытворчасці сыроў ААТ “Бабулін гладыш” Тамары Галёты? Пасля аказаўся чалавек абсалютна невінаваты.

Ці не менш слаўны былы дырэктар ААТ “Новая Друць” Ігар Бондараў, у якога немаведама куды падзелася процьма зерня з гаспадаркі ў незразумелыя фірмы, таксама ж абсалютна чэсны чалавек. Працягвае працаваць на высокай пасадзе ў ААТ “Племптушказавод “Беларускі” з сваім мудрым сябрам Аляксандрам Ільянавым, умацоўваючы эканамічны патэнцыял нашай радзімы. А тыя невядомыя злодзеі, якія з незразумелых прычын ледзь не зрабілі інвалідам яго пераемніка на пасадзе дырэктара ААТ “Новая Друць” Уладзіміра Канавалава, наколькі я ведаю, не знойдзены да гэтага часу.

Але што тут зробіш, як тут крыўдзіцца на нашых слаўных супрацоўнікаў бялыніцкай міліцыі, яны і забойцаў сям’і з шасці чалавек у вёсцы Вялікая Машчаніца дзевяць з лішкам гадоў знайсці не могуць. Гэта ж сапраўды складаная справа, канешне, штрафы адміністрацыйныя “паддатым” грамадзянам выпісваць і “рогі настаўляць” мужыкам, што ў Расіі на заробках працуюць, значна прасцей…

Наогул, з карупцыйнымі злачынствамі ў нас у Бялыніцкім раёне складана. З імёнаў, якія на слыху, наколькі я памятаю, быў прыцягнуты ў свой час да адказнасці Анцыпіровіч. Ды яшчэ ў вельмі далекія гады далі ўмоўныя тэрміны былому начальніку ўпраўлення сельскай гаспадаркі Кудраўцаву ды Гапееву, які тады ўзначальваў калгас імя Ільіча. А так поўны парадак, ніхто хабар не бярэ і са сваіх прадпрыемстваў не цягне.




Іншая справа, што тыя ж самыя слаўныя бялыніцкія міліцыянеры ў прыватных гутарках кажуць, што ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах “крадуць усе”. Аднак гэта ж яны ў прыватных гутарках кажуць…

Неабходна адзначыць, што ў нашых суседзяў з выяўленнем карупцыйных злачынстваў справы ідуць значна лепш. У суседнім Круглянскім раёне ў мінулым годзе за хабар пасадзілі начальніка мясцовай “хіміі”, за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі – начальніка аддзела адукацыі райвыканкама, зараз расследуецца крымінальная справа па аналагічнаму абвінавачванню ў адносінах пасадавай асобы з Круглянскай ПМК-266, якой інкрымінуюць прынясенне страт арганізацыі ў памеры 206 мільёнаў рублёў.

Што ж датычыцца Шклоўскага раёна, дык там наогул нейкі “карупцыйны Клондайк” – каго-небудзь садзяць пастаянна, аднак хабарнікаў і карупцыянераў ад гэтага там менш не становіцца. Садзіць за краты і ўзбуджаць крымінальныя справы супраць кіраўнікоў мясцовага жылкамгаса у Шклоўскім раёне наогул стала добрай традыцыяй, рэгулярна ў некія карупцыйныя злачынствы “уляпываюцца” і мясцовыя высокія чыноўнікі. Пра што казаць, калі зараз за кратамі знаходзіцца былы начальнік Шклоўскага аддзела ДФР КДК, па падазрэнні ў атрыманні хабару затрыманы былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама М., узбуджана крымінальная справа ў адносінах да іншага намесніка старшыні райвыканкама С., а яшчэ цэлы шэраг чыноўнікаў і кіраўнікоў рэгулярна сустракаюцца з супрацоўнікамі следчых органаў, каб распавесці, што ж іх штурхнула на здзяйсненне шматлікіх парушэнняў заканадаўства.

У Магілёўскім раёне таксама ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах намесніка старшыні мясцовага райвыканкама па будаўніцтву Сяргея Арцёмчыка.

Ну што тут зробіш, ня спяць у шапку нашы слаўныя чыноўнікі,ня спяць.

Наогул, як адзначае намеснік пракурора Магілёўскай вобласці Сяргей Сільвановіч, “нават чыста візуальна можна вызначыць, што належачыя многім асобам раскошныя асабнякі, дарагія транспартныя сродкі, немагчыма мець за тое грашовае забеспячэнне, якое яны атрымліваюць”. Ну нельга не пагадзіцца з шаноўным пракурорскім работнікам, самі добра бачым гэта на ўласныя вочы.

Аднак у нейкія поспехі ў барацьбе з карупцыяй я асабіста ўсё роўна не вельмі веру. Пройдуць чарговыя прэзідэнцкія выбары, скончыцца гучная антыкарупцыйная кампанія і ўсё зноў будзе, як і зараз, – тыя, хто пры ўладзе, будуць багацець, ну а просты народ будзе глядзець па тэлебачанню і чытаць у дзяржаўных газетах пра сваё шчаслівае жыццё ў квітнеючай Беларусі.

***Іван Барысаў***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# У МАГІЛЁВЕ ПРАЙШЛА ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ГЕНАДЗЯ СУДНІКА

***24 жніўня ў Магілёве ўшанавалі памяць выдатнага журналіста, шматгадовага кіраўніка мясцовай суполкі ГА "БАЖ" Генадзя Вітольдавіча Судніка, які пайшоў з жыцця год таму.***



Вечарына памяці адбылася ў грамадскім цэнтры "Кола", дзе сабралася больш за пяцьдзесят сяброў Генадзя Вітольдавіча, яго паплечнікаў па журналісцкай і грамадскай дзейнасці, родных і блізкіх.

Прысутныя ўзгадвалі Генадзя Вітольдавіча як светлага і інтэлігентнага чалавека, сапраўднага майстра сваёй справы, які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю горада Магілёва як першы старшыня Магілёўскага тэлерадыёкамітэта, стваральнік газеты "Тыднёвік Магілёўскі" і шматгадовы нязменны кіраўнік мясцовай суполкі ГА "БАЖ".

Вядомы беларускі журналіст, старшыня камісіі па этыцы ГА "БАЖ" Анатоль Гуляеў, які сябраваў з Генадзем Суднікам шмат гадоў і з якім ён сумесна працаваў яшчэ ў газеце "Магілёўская праўда", адзначыў, што асабіста для яго Генадзь Вітольдавіч з'яўляўся першым сябрам і першым настаўнікам. Яго словы пра тое, што "варты публікацыі толькі той матэрыял, які ўтрымлівае новы факт альбо новую думку", ён запомніў на ўсё жыццё.

Шмат цёплых слоў на адрас Генадзя Судніка сказаў і намеснік старшыні ГА "БАЖ" Андрэй Бастунец. Узгадаўшы словы Генадзя Вітольдавіча пра тое, што "БАЖ ўратаваў сэнс і гонар беларускай журналістыкі ", ён адзначыў, што ў тым ліку і Генадзь Суднік ўратаваў сэнс і гонар журналістыкі, бо ён быў адным са стваральнікаў гэтай арганізацыі. Генадзь Вітольдавіч на працягу многіх гадоў уваходзіў у склад Рады ГА "БАЖ", на апошнім з'ездзе ён быў абраны сябрам Праўлення арганізацыі.

Падзяліліся ўспамінамі пра Генадзя Вітольдавіча таксама Віталь Васількоў, Уладзімір Капуза, Ігар Пушкін, Міхась Булавацкі, Аліна Скрабунова, Рыгор Кастусёў і іншыя яго сябры і паплечнікі.

Удава Генадзя Вітольдавіча, Ніна Уладзіміраўна Суднік падзякавала прысутным за добрую памяць пра яе мужа. Асаблівую падзяку Ніна Уладзіміраўна выказала Віталю Васількову і магілёўскім журналістам Ганне Ільіной і Сяргею Стральцову, якія вельмі дапамаглі ёй у падрыхтоўцы вечарыны памяці.

Напрыканцы сустрэчы прысутныя разам праспявалі любімую песню Генадзя Вітольдавіча "Паляцяць у вырай гусі".

***Барыс Вырвіч***

# СУДНІК ПА-МАГІЛЁЎСКУ

***Неяк на пачатку 2005 года моладзь сабралася ў грамадскім цэнтры «Кола», каб сустрэць замежную дэлегацыю. І вось бачаць, як па лесвіцы на другі паверх падымаецца сівы чалавек «без узросту»: вытанчаны, у фірмовым пінжаку, добрых ботах і па-плэйбойску завязаным чырвоным шаліку. «Божухна, які мужчына!» — вырвалася ў адной з дзяўчын. «Мабыць, француз», — рэзюмавала яе сяброўка.***

«Француз» нечакана загаварыў пабеларуску. Ім аказаўся маёр запасу, выпускнік Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС у Маскве, былы інструктар ЦК КПБ Генадзь Вітольдавіч Суднік. Сыну вайскоўца, што нарадзіўся ў штабным горадзе Паўднёва-Уральскай ваеннай акругі — Чкалаве (так называлі Арэнбург з 1938 па 1957 гг.), а потым яшчэ і ажаніўся на дачцэ вайскоўца, здаецца, сам лёс наканаваў мець вайсковую выпраўку і лаяльнасць да савецкай улады з усімі яе тагачаснымі парадкамі. Аднак жыццё аказалася больш цікавым і багатым на кантрасты.

### Мы кажам «партыя»…

У пачатку 1980-х, яшчэ напярэдадні перабудовы, партыя кінула яго на новы «фронт» — ствараць Магілёўскую абласную студыю тэлебачання. Ад праектна-каштарыснай дакументацыі знакамітага чырвонага будынка, што па вуліцы Першамайскай, 83 і да першага ўласнага выпуску навінаў у студзені 1989 года — усе этапы станаўлення тэлевяшчання ў Магілёве прайшлі пад «зоркай» Судніка.

Старшыня абласнога камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні запомніўся тым, што сам вычытваў усе выпускі навінаў, да якіх у яго было надта неабыякавае стаўленне. Старажылы мясцовага TV прыгадалі, як аднойчы да пачатку эфіру заставалася пара гадзін, а тэксты яшчэ былі на стале ў кіраўніка камітэта. Рэдактары пачалі нервавацца, але баяліся зайсці да шэфа. Урэшце вырашылі накіраваць да яго самага маладога супрацоўніка.

— Генадзь Вітольдавіч, час «Навіны» запускаць, — кажа маладзён.

— Навіны? А яны ёсць? — запытаўся Суднік. — Ну тады запускаем… — і шпурнуў у паветра стос папераў. Як рэагаваць на такое, тады яшчэ ніхто не ведаў. Стажор, абсыпаны «сырымі» тэкстамі, стаяў як укопаны, а так званыя рэгіянальныя навіны асядалі па ўсім кабінеце. Потым была размова, як рабіць сапраўды актуальныя, аператыўныя навіны,была размова, як рабіць сапраўды актуальныя, аператыўныя навіны, каб яны былі цікавыя для жыхароў рэгіёна.

### «Гнілая» інтэлігенцыя

Пазней тэлевізійны начальнік

*(Працяг на стар. 7)*

# СУДНІК ПА-МАГІЛЁЎСКУ

*(Працяг. Пач. на стар. 6)*

прынясе шмат непрыемных, нават выпрабавальных хвілінаў тым, хто ўсё жыццё перастрахоўваўся і ціхенечка пераседжваў грамадска значныя для краіны падзеі. У Магілёве кажуць, што менавіта такія «прамудрыя пячкуры» ад журналістыкі і працуюць сёння на рэдактарскіх пасадах у розных дзяржаўных медыя.

19 жніўня 1991 г., калі танкі ўвайшлі ў Маскву, а самазваны Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы (ГКЧП) рыхтаваўся да прэсавай канферэнцыі, цэковец і старшыня абласнога тэлерадыёкамітэта Генадзь Суднік знаходзіўся ў адпачынку. Несумненна, беларускі жнівень ці не лепшы месяц для барбекю на беразе рэчкі. У тыя часы савецкія наменклатуршчыкі часта адпачывалі на партыйных дачах, якімі карысталіся без асаблівых маральных пакут і абмежаванняў. Сотні чыноўнікаў і партыйных босаў у дзень канстытуцыйнага перавароту адключылі тэлефоны і заляглі «на дно», каб перачакаць «смутны час». Аднак Суднік паступіў інакш. І якія лейцы падштурхнулі яго ў тыя дні для мясцовага творчага beau monde, дагэтуль застаецца таямніцай.

У памяці ветэранаў магілёўскага тэлебачання захаваліся ўсе, нават самыя дробныя, падзеі таго дня. Перадусім іх здзівіла, што Генадзь Суднік сам адклікаў сябе з адпачынку. Маўляў, навошта, «бо жыў жа ў шакаладзе». Да ўсяго напісаў заяву з асуджэннем дзеянняў ГКЧП. І, што самае страшнае, як прыгадалі ветэраны, прымусіў супрацоўнікаў магілёўскага тэлерадыёаб'яднання падпісацца пад гэтым дакументам. Расклад быў такі: тэхнічны персанал, калі хоча, то падпісваецца, а вось творчыя работнікі — падпісваюцца абавязкова і бескампрамісна!

Столькі ненарматыўнай лексікі, што круцілася ў галовах супрацоўнікаў тэлебачання, а часам і агучвалася ў завуголлях адміністрацыйнага будынка ў дачыненні іх кіраўніка, па іх жа прызнанні, у іх жыцці ніколі не было. Палова падпісантаў, схіліўшы галаву, сышла, а многія трэсліся ў кабінетах і на поўным сур'ёзе чакалі хуткага арышту і пракліналі той дзень, калі прыйшлі працаваць да Судніка. Аднак ужо 21 жніўня 1991 года, калі з Масквы прыйшла інфармацыя, што путч праваліўся, яны ганарыліся тым, што «супрацьстаялі» хунце і ахвотна распавядалі пра сваю адвагу. Генадзь Суднік у гэты дзень проста адсвяткаваў свой другі дзень нараджэння.

Падзеі 19 жніўня 1991 года сталі момантам ісціны для ўсіх, хто нарадзіўся і зрабіў кар'еру ў СССР. У гэты дзень выявіліся самыя лепшыя альбо самыя гнюсныя рысы чалавечага характару. Дзіўна, але некаторыя «сябры» Судніка дагэтуль надта нервова рэагуюць на пытанне пра свае асабістыя паводзіны ў 1991 годзе. Відаць, і сёння зайздросцяць смеласці і моцы Судніка, якія перамаглі нікчэмнасць і лісліваць многіх «праваднікоў палітыкі партыі», як тады называлі літаральна ўсіх журналістаў. Цяпер былым калегам толькі і застаецца, што распавядаць пра «цяжкі характар» іх былога кіраўніка.

## Містэр «Не»

А характар у яго і дагэтуль цвёрды. Дамы, што ведаюць Судніка як вытанчанага еўрапейца і галантнага інтэлігента, нават і не падазраюць, што часам ён западае ў такую лютасць, што яго апанентаў прыходзіцца ў літаральным сэнсе ратаваць. Такім Суднік бывае, калі дыскусія тычыцца гонару ці здрады, свабоды ці няволі, прыстасавальніцтва ці прафесійнай мужнасці. Важным і нават



*Генадзь Вітольдавіч Суднік*

сакральным для яго было і застаецца пытанне нацыянальнай свядомасці і незалежнасці Беларусі.

Такая пазіцыя, безумоўна, паўплывала і на далейшы лёс Генадзя Вітольдавіча. Хто толькі не заходзіў у кабінет старшыні Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні падчас апошніх у савецкай гісторыі выбараў у Вярхоўны Савет БССР. Кандыдаты ў дэпутаты па чарзе раіліся з ім наконт эфірнага часу. З кожным Суднік персанальна абмяркоўваў актуальныя падзеі. І неяк, кажуць, «завёўся», выказаў новаспечаным «рупліўцам» пра народнае шчасце ўсё, што думае.

Таму, калі надышоў час пераможцам тых выбараў ісці ў рэстаран, куды сабраліся ўсе «мясцовыя», тады яшчэ сціплыя і пераважна сумленныя, press-дзеячы (пазней яны ўзначаляць практычна ўсё, што можна ўзначаліць у гэтай краіне), то адбылася размова, пра якую мне таксама распавялі па «вялікім сакрэце»:

— Ці клікаць Судніка? — запытаўся адзін з рэдактараў.

— Відаць, не. Не наш чалавек, — пасля паўзы адказаў ужо абраны дэпутат, які пазней здолее стаць першым беларускім прэзідэнтам.

Натуральна, пасля гэтых словаў дні Генадзя Судніка на пасадзе кіраўніка былі падлічаныя. І зразумела, што апошнім стаў дзень інаўгурацыі новаабранага кіраўніка дзяржавы.

Думаю, для многіх будзе дзіўным даведацца, што калісьці Генадзь Суднік практычна зусім не ведаў

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# СУДНІК ПА-МАГІЛЁЎСКУ

*(Заканч. Пачатак на стар.6. 7)*

беларускай мовы. Каб выправіць сітуацыю, ён абкладаўся слоўнікамі ў сваім начальніцкім кабінеце і бясконца вучыўся. Не дзіўна, што такія людзі сапраўды былі чужымі для аматараў «вершаў Быкава».

## Чырвоныя кніжачкі

У сакавіку 2008 года адразу тры маёры з магілёўскай абласной управы КДБ а восьмай раніцы заявіліся на кватэру Генадзя Судніка. Намеснік пракурора г. Мінска А. Стук дазволіўператрус у межах расследавання крымінальнай справы па ч. 1 арт. 367, узбуджанай у дачыненні да Андрэя Абозава, Алега Мініча і Паўла Марозава. Іх абвінавацілі ў стварэнні сатырычных фільмаў пра Аляксандра Лукашэнку. У пастанове было напісана, што следчы пракуратуры г. Мінска В. Шабан даручыў магілёўскаму КДБ «пашукаць прадметы, якія могуць знаходзіцца ў кватэры Генадзя Судніка і мець дачыненне да ўзбуджанай крымінальнай справы».

Маёры мелі асалоду стаць сведкамі цэлага шэрагу парадоксаў. Папершае, яны ішлі ў самы цэнтр горада рабіць ператрус у доме, дзе жывуць усе мясцовыя «шышкі». Па-другое…

— УКГБ по Могилевской области, — важна прад'явіў чырвоную кніжачку першы з трох.

— Ага… так-так, у мяне таксама ёсць, амаль такая ж, — пажартаваў у адказ Суднік.

Пачаўшы гартаць невялічкі стос чырвоных кніжачак гаспадара кватэры, маёры крыху знiякавелі. Яны чулі пра розныя КПСС, Маскву і ЦК, але ж жыўцом такога пакуль яшчэ не бачылі. Таму ўключаць «агентаў 007» было зусім недарэчным, а рабіць сур'ёзны ператрус — сорамна. Тым часам было відавочным, што «савецкі маёр» Суднік бачыў перад сабой не разведчыкаў, а нейкіх «пацаноў» з раёна, якія па волі лёсу апынуліся на службе ў структуры, назва якой калісьці складалася ў страшную абрэвіятуру з трох літараў — КДБ. Але гэта было калісьці…

У кватэры Судніка ёсць шмат дзіўных рэчаў. Побач з партрэтам жонкі на тле Эйфелевай вежы, напрыклад, стаіць партрэт Эмі Уайнхаўс. Прыгожая. Спачатку ўсе думаюць, што гэта дачка. Але, даведаўшыся пазней, што гэта брытанская спявачка, здзіўляюцца. Шок! Сівы Суднік, нібы зафаначаны падлетак, толькі замест постэра з часопіса трымае партрэт любімай рок-зоркі. Не менш дзіўна выглядае на фота і шчаслівы былы інструктар ЦК каля статуі Свабоды ў Нью-Ёрку.

Але найбольш парадаксальна выглядала тое, што выдатнік марксізму-ленінізму, які вучыўся на паралельным курсе з цяперашнім лідарам расійскіх камуністаў Генадзем Зюгановым, раптам стаў самым адданым абаронцам нацыянальных каштоўнасцяў Беларусі. Насупраць яго сталі тры разгубленыя спецслужбісты, чыё юнацтва выпала на ўжо вернуты бел-чырвона-белы нацыянальны сцяг. А сталенне — на знявагу гэтай гістарычнай святыні, якую вандалы парвалі на кавалкі, ды на вяртанне да савецкага ладу жыцця. Такім чынам у кватэры ў цэнтры Магілёва сутыкнуліся шчасце і мудрасць напоўніцу пражытага жыцця і разгубленасць, калі не «зашуганасць», беспрынцыповай маладосці.

Той ператрус доўжыўся больш як дзве гадзіны, але ўрэшце маладыя маёры забралі толькі сістэмны блок кампутара, каб не пайсці з пустымі рукамі. Справаздачу ж пра нешта пісаць трэба…

Ціск на абласнога каардынатара ГА «БАЖ», натуральна, выклікаў абурэнне ў мясцовых журналістаў — як незалежных, так і «дзяржаўнікаў». Бажаўцы прапаноўвалі свае камп'ютары, фотакамеры, аргтэхніку. Некаторыя нават казалі, што ў знак салідарнасці гатовыя адседзець колькі сутак адміністрацыйнага арышту, калі спатрэбіцца.

— Не-не… Экстрыму не трэба… Толькі сяброўскія складкі не забывайце плаціць, — адказаў калегам Генадзь Суднік. — Жыццё ж, даражэнькія мае, працягваецца!

***Аляксандр Буракоў, “Абажур”, 2013 г.***

## БЕЛЫНИЧСКИЕ ЧИНОВНИКИ ОПЕРАТИВНО ОТРЕАГИРОВАЛИ НА ПОВТОРНОЕ КОЛЛЕКТИВНОЕ ОБРАЩЕНИЕ ГРАЖДАН

Белыничские чиновники оперативно отреагировали на повторное обращение жильцов дома №1 В по улице Энгельса с требованием наконец навести порядок на расположенной возле этого дома площадке по сбору вторичных бытовых отходов.

По словам координатора кампании “Говори правду” в Белыничском районе Петра Шимбалёва, 27 августа состоялась встреча чиновников Белыничского райисполкома и местного жилкомхоза с жильцами дома 1 В, на которой было принято решение демонтировать расположенную возле дома площадку по сбору вторичных бытовых отходов.

“Белыничские чиновники очень быстро отреагировали на наше повторное обращение на имя председателя Белыничского райисполкома Николая Кодатенко с просьбой наконец-то навести порядок дома площадке по сбору вторичных бытовых отходов, — рассказывает Пётр Шимбалёв. – Насколько я знаю, Николай Кодатенко сразу же дал сответствующие указания навести должный порядок и решить этот вопрос чиновникам из жилкомхоза. После этого сразу же оперативно была организована их встреча с жильцами дома №1 В по улице Энгельса, на которой было принято совместное решение, что площадка по сбору твёрдых бытовых отходов возле этого дома будет демонтирована.

Жильцы дома №1 В согласились с этим решением, так как эта площадка изначально была оборудована с нарушением санитарных ном. К тому же им уже надоела постоянная антисанитария, вместо раздельного сбора бумаги, стекла и пластика отдельные несознательные граждане из близлежащих домов и гаражей выбрасывают на площадку бытовой мусор, захламляя территорию возле дома. Мы удовлетворены тем, что наши действия принесли конкретный результат”, — говорит Пётр Шимбалёв.

***Ирина Беганкина***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 03.09. 2014 г. у 09-00.